## РУЧАЁК

Пасля снежнае зімы
Ён вясёлы і жывы.
Жвавы жэўжык-ручаёк
З-пад гары на луг пацёк.
Ён віляе між кустоў –
Радуе маіх сяброў.
Мы караблікі пускаем –
Ручаёк іх забірае:
І плывуць яны з узгорку,
І вязуць да нас вясёлку,
І цяпло вязуць, і сонца,
І нас радуюць бясконца.

## САНКІ

Для свайго унучка Санькі
Змайстраваў дзядуля санкі.
З горкі лёгка едуць санкі,
Бо сяброў катаюць Санькі.
А сяброў у Санькі шмат –
Добрых хлопчыкаў атрад,
Па чарзе садзяцца ў санкі
І ляцяць з гары да Санькі.
А пасля праедзе Санька –
Дзякуй, дзед, табе за санкі!



## ВЯСНА

Завітаў у госці красавік,
Сонейка зірнула нечакана,
Ручайкамі снег кудысьці знік,
Стала цёпла ў нашых Бараўлянах.
Болей не кусаецца мароз,
Не трасе ён барадой кудлатай.
Сок пацёк бярозавы з бяроз,
Птушкі заспявалі каля хаты.
Вось і дачакаліся вясны –
Сонечнай, прыгожай і жаданай...
Нават пасвятлелі дома сны
Ад вясны у нашых Бараўлянах.

## СВЕЦІЦЬ СОНЕЙКА

Сёння зноўку на двары
Сонейка смяецца.
Коцік з печы на вакно
Сеў, каб тут пагрэцца.
У клубок скруціўся ён,
Хвосцікам накрыўся,
Памурлыкаў, вочкі звёў,
І – у сон зваліўся.
Спіць шчаслівым, ясным сном,
Спіць, як і ўсе дзеці...
А нам сонейка ў акно
Свеціць, свеціць, свеціць.

## ДЫВАН-САМАЛЁТ

Падышоў да бабулі
І гаворыць Іван:
“Ты расказвала казку
Пра чароўны дыван.
Калі вытчаш, бабуля,
Мне дыван-самалёт,
То цябе без білета
Я вазьму у палёт.”





## РАНАК

На ганак, у хату
Са стукам вядзерца
Падымецца ранак –
Бадзёры, смяецца!
Я выйду на ганак
І жмені – да сонейка:
“Насып мне праменняў
Поўненька, поўненька!”



## САЛОДКІ СОН

Засні, мая дзяўчынка,
Прысні салодкі сон.
Хай дзіўная іскрынка
Раскрые парасон
Чароўных добрых казак,
Пяшчотны ціхі свет.
Няхай з табою разам
Бабуля будзе й дзед,
І мамачка, і брацік,
Ну і, вядома ж, я.
Зімовай прыйдзе сцюжай
Вясна вясёлая.
І я прачнуся рана,
Гукну красу-вясну...
З лясной табе паляны
Пралесак прынясу.

## МАЙ

Высокае сонца
Край наш вітае –
Май расцвітае,
Май расцвітае.
У садзе галінкі
Ветрык гайдае –
Май расцвітае,
Май расцвітае.
Вясёлка ў блакіце
Весела ззяе –
Май расцвітае,
Май расцвітае.
Дзяўчынка-гарэза
З мамай гуляе,
Сонцу і кветкам
Песню спявае.

## ДЗЕД МЯДЗВЕДЗЬ

Прачынайся, дзед Мядзведзь,
Хопіць сны табе глядзець,
Ўжо няма зімы нідзе,
Бо вясна да нас ідзе.
Хорам клічуць ўсе звяры:
Воўк, ліса, бабёр стары.
Нават заяц і вавёрка
Закрычалі дужа звонка:
“Уставай з бярлогі, дзед,
Запрашаем на абед –
Прыхавалі мёд салодкі,
Уставай, пусціся ў скокі!..”

Толькі вочы дзед расплюшчыў –
Паўцякалі ўсе у пушчу.



## ПАМОЧНІЦА

Дома я памочніца,
Працаваць мне хочацца.
Мама з татам на рабоце –
Я шчырую ў агародзе.
Дожджыку даўно няма,
Дожджык я зраблю сама.
Узяла я шланг-каўбаску:
Піце, градкі, калі ласка!
Ты, струменьчык,
Звонка булькай –
Захацелі піць
цыбулька,
Памідоры, агуркі,
Бульба, боб і буракі...

Мама з татам вельмі рады –
Будзе стол у нас багаты.



## БУСЛІНАЕ ШЧАСЦЕ

Мелодыя першая грому
Вясну адчыняе насцеж.
Іду я да роднага дому,
Да буслінага шчасця.
Даўно ля вакна бярозка
Абтрэсла пушысты снег.
Зноўку буслы над вёскай
Шлюць прывітанне вясне.



## СЛОНІК І ГАРМОНІК

Слонік з Афрыкі у Слонім
Завітаў купіць гармонік.

Ўсе здзіўляюцца, глядзяць:
Ці умее слон іграць?..

Заліваецца гармонік –
Гэта вальс іграе слонік!



## КРЫНІЦА

У сасновым лесе
З-пад кары, ігліцы
Булькае, іскрыцца
Чыстая крыніца.
Хочацца напіцца –
Побач упадзеш,
Чыстую вадзіцу,
Быццам з мёдам, п’еш.

## ШПАК НА ДРЭВЕ

– Шпак вясну прынёс на крылах, –
Кажа ўнучцы дзед Кірыла.
– У яго не хопіць сілы,
Каб падняць вясну на крылах, –
Адказала ўнучка Люба.
Дзед смяецца ветла, люба.
Кажа ўнучцы мудры дзед:
– Шпак на дрэве – наш сусед,
Гімны ён вясне спявае –
І вясна вакол гуляе!



## ЛЕТНЯЕ

Цёплыя далоні,
Сонечная ніцы.
Лета, луг і коні,
Коні хочуць піць.
Лёгкі ветрык лашчыць
Грывы вараным.
Гонім іх да Шчары –
Хораша тут ім.
Коні п'юць аблокі,
Сонца п'юць і сінь.
Кветкамі пагоркі
Клічуць ў далячынь.
Хмеліць на улонні
Свежанькі пракос.

Лета, Шчара, коні,
Травы... Сенакос!

## ЖАБКІ І ТАПКІ

Пакуплялі сабе тапкі
На старым балоце жабкі,
А пасля на свае лапкі
Насадзілі лёгка тапкі.
Ды пакуль скакалі жабкі –
Пагублялі дзесьці тапкі.

Аж тры дні рыдалі жабкі,
Хто знайшоў – вярніце тапкі.

## ХЛОПЧЫК ЯСЬКА

Хлопчык Яська, беларус,
Любіць моцна Беларусь.
Ён шчаслівы і вясёлы –
Першы раз ідзе у школу.
І паверце, калі ласка,
Што у школе хлопчык Яська
Абяцае маме з таткам
Мець на ўроках шмат дзясятак.



## КАЛІ ЛАСКА

Коціка клічуць усе “Калі ласка”.
Любіць наш коцік смятану з каўбаскай,
Толькі чамусьці баіцца мышэй,
Іх як убачыць – знікае хутчэй.
І адшукаць яго потым нам цяжка…
Дзе ж ты схаваўся? Вылазь, Калі ласка!



## ДАПАМОГ

Плача, плача хамячок,
Забалеў ў яго бачок.
Спачуваваць прыйшоў бычок –
Малачка прынёс глячок.

## ВАРТАЎНІК

Свой багаты агарод
Аглядае Васька-кот.
Стаў яго баяцца крот –
І не лезе ў агарод!

## ПЕРШЫ ЗУБ

Што за радасць?
Што за свята?
Мама рада,
Рады тата.
Торт з’явіўся на стале,
Шакаладкі і суфле,
Апельсіны і пячэнне...
У каго дзень нараджэння?..
Завіталі і суседзі,
Дзед прыехаў на мапедзе.
Весяліцца наша хата:
Вырас першы зуб у брата.

## АВЁС

Вусы выпусціў авёс:
“Паглядзіце, я падрос.
Вельмі хутка спець пачну,
Потым колас мой сажнуць,
А з зярнят навараць кашы –
Будуць есці дзеткі нашы”.



## КРОТ-ПІЛОТ

З агарода ціхі крот
Пералез у самалёт.
Загудзеў матор як трэба,
Каб крата падняць у неба.
І крычыць з кабіны крот:
“Самы лепшы я пілот!
Хопіць мне ў зямлі сядзець,
Трэба зверху паглядзець...”
Крот не лепшы быў пілот:
Зачапіўся ён за плот –
І не сеў на агарод,
Бо разбіўся самалёт.



## СОН

За слязой бяжыць сляза –
Плача з раніцы каза,
Бо прысніўся сон казе –
Самы светлы за усе.
Гэта праўда, а не жарт –
Сем вясёлых казлянят.
Ноч усю каза іх сніла,
Малаком малых карміла...

А калі з’явіўся воўк –
Раптам сон патух і змоўк.

## ГРУШЫ

Вожык спелых ў садзе груш
Назбіраў у капялюш.
Прыйдзе да яго натхненне –
Ён наварыць з груш варэння.

## ПАЦЕШКА

Суслік тоўк у ступе мак.
Гэта чуе ў рэчцы рак:
– Што ты робіш, дарагі?
– Мак таўку на пірагі!

## СЛАНЕЧНІК

Галаву паклаў на плот
І падняць не мае сілы.
Ён вартуе агарод,
Каб тут шкоды не зрабілі.
Сонца промнямі гуляе,
Дожджык цёплы палівае…
Як паспеюць ў ім зярняты –
Прынясём сланечнік ў хату.



## “ВОЖЫК”

Кактус вырас у кватэры,
Быццам пасяліўся вожык.
У яго, і не паверыш,
Сто калючак – тонкіх ножак.
“Вожыка” цяпер баяцца
Кот, сабачка, хамячок:
Нельга нават прытуляцца –
Ён уджаліць у бачок.



## КОЦІК

Наш гуллівы коцік
З плямкаю на ножцы
Вельмі лоўка коціць
Мячык па дарожцы.
Хвост трубой пушыцца,
Выгінае спінку…

Кот пасля кладзецца
Спаць з мячом ў абдымку.

## ШЧУПАК

У рацэ жыве шчупак,
Б’е хвастом ад злосці:
“Не чапай мяне, рыбак,
Бо ўкушу да косці.
Карасі мяне баяцца,
Акуні, і лешч, і ўюн...
Не люблю я забаўляцца,
Я шчупак – рачны маўчун...”

Выхваляўся так шчупак –
Ды злавіў яго рыбак.

## ТАНЦЫ

Сеў на слуп камарык,
Запаліў ліхтарык –
Стала светлай вуліца.
З пеўнем сёння курыца
Танцаваць навучыцца.
Апусцела седала –
А ліса не ведала:
Толькі глянула за дзверы –
Засталася без вячэры.



## СТАРЫ ЯСЕНЬ

Сёння з ранку дзядзька Вася
Спілаваць надумаў ясень.
Ясень дужы і стары –
Карані па ўсім двары.
Дзве пілы ён сапсаваў –
Толькі трохі спілаваў.
Што ж рабіць цяпер, сябры?
Адгукнуліся бабры.
Цэлы месяц па чарзе
Грызлі дрэва разам ўсе.
І паддаўся гмах стары –
Стала светла на двары.

## ПІНЖАК

Кінуў дзед на плот пінжак,
Правісеў ён месяц так.
А калі вісеў пінжак –
Пасяліўся ў ім чарвяк.
Бо ў кішэні пінжака –
Добры дом для чарвяка.



## САВА

Глянуў я саве у вочы
І спытаў: – Чаго ты ноччу
Ўсё лятаеш па лясах –
На звяроў наводзіш страх?
А сава сказала: – Ноччу
Берагу я сон твой, хлопчык,
І звяроў сон берагу.
Спіце ўсе: гу-гу, гу-гу!



## ГРАК

Што ні зробіць – ўсё не так,
Бедаваў аб гэтым грак.
“Не бядуй, – сказаў індык, –
Да жыцця ты не прывык.
Як жыцця адчуеш смак –
Будзеш ты шчаслівым, грак!”

## “ПЛЫВЕЦ”

Захацелася граку
Нёман пераплыць раку.
Ўсхвалявалася рака:
“Не пускаць ў ваду грака,
Бо прамокне яго фрак –
І патоне птушка-грак.
Лепш у неба хай ўзлятае
І мяне пералятае...”
Не паслухаў рэчку грак –
І тапіцца стаў дзівак.
Лебедзь, качка, жураўлі
Ратавалі, як маглі:
Абагрэлі, накармілі
І на волю адпусцілі.

## ЛІСТАПАД

Не спяваюць птушкі,
Ўсё прыціхла ў лесе.
Восень на галінках
Золата развесіла.
Закідала лісцем
Ўсе прагалы, сцежкі,
Патушыла сонца
Ясныя усмешкі.



## ПРАКАТ

На кірмашы сталічным мышы,
Пабегаўшы, купілі лыжы.
Прывезлі іх дамоў, у вёску,
Пусцілі гучна пагалоску:
“Для ўсіх гусей, сабак, цялят
Даюцца лыжы напракат.
Прыходзьце дружна грамадою,
З гары катайцеся зімою...”

Калі ж прыйшоў па лыжы кот –
Пракат закрыўся на рамонт.



## РОДНЫ КУТ

Кут мой родны –
Поле, лес,
Каля хаты
Цуда-бэз.
Шум ракі
І вой вятроў,
Нашы песні
Ля кастроў.
Мора золата –
Калоссеў
І грыбная ў лесе
Восень.

## ВАВЁРКІ

Дзве вавёрачкі-сяброўкі
Працавалі дружна, лоўка.
Лета цэлае не спалі,
Бо арэшкі сабіралі.
Назапасілі нямала –
Раптам і зіма настала.
Ды вавёркі не сумуюць –
Чай з арэхамі смакуюць…

Мы упэўнены: яны –
Дачакаюцца вясны.



## ЗІМОВАЯ ЗАГАДКА

Хто там пад елкай схаваўся,
Хто там па полі бяжыць,
На дзетвару раззлаваўся,
Гулка гудзе і трашчыць?
На шыбах стварае узоры,
Нібыта вялікі мастак,
Лёдам пакрыў ён азёры,
Сівы чараўнік-дзівак...
На вуліцу выбегчы хочацца –
Шчыпле за вушы і нос...

– Хто ён такі, хлопцы?
– Дык гэта ж  Дзядуля Мароз!

## У ГРЫБНЫМ ЛЕСЕ

Прайшлі гусценькія дажджы,
Пасеяўшы грыбочкі.
І мы ранютка – за кашы,
Да бліжніх мчым лясочкаў.

Спяшаюцца ўсе грыбнікі
Да лесу сцежкай блізкай:
Стаяць радочкам маслякі
Ў бліскучых шапках слізкіх.

А пад асінай – прыгажун,
Высокі, зграбны, лоўкі,
З нагой рабенькаю, фарсун
З чырвонаю галоўкай.

Вунь падбярозавік-сусед
З галоўкаю сівенькай,
На ножцы тоненькай прысеў,
Малы яшчэ, слабенькі.

Дзядулі ля яго стаяць,
Сівенькія таксама,
І брат, і сёстры – ўся сям’я,
А побач тата з мамай.



Расце магутны баравік,
Чаргі сваёй чакае.
Здавацца лёгка не прывык,
Схаваў у мох свой чаравік
І ў хованкі гуляе.
Малодшым кажа: “Ну, браткі,
З хлапцоў мы пасмяёмся,
Бо мы, браткі-баравікі,
Так лёгка не здаёмся”.

Грыбы за намі з-пад кустоў
Паціхуназіраюць,
Прыкрыўшыся крысом лістоў –
Адны другім маргаюць.

Мы ж, хлопцы, грыбнікі усе,
Не першы раз у лесе.
Мы то прысядзем, то паўзём,
А то ў гушчар залезем.

Баравікі – грыбоў цары,
Дарунак шчодры лесу,
Нібыта кажуць дзетвары:
“Што ж! Вашая ўзяла, бяры!”

Ідзём дамоў з лясной цішы,
Хай сонца свеціць ярка.
Напоўніў, лес, ты нам кашы,
Пацешыў шчыра ад душы,
Табе за ўсё – падзяка!



## КЛІЧА АГЕНЬЧЫК

Бялютка на двары
Ад снегу-ваты.
Нясёмся мы з гары
Да роднай хаты.
Агеньчык нас заве,
Бяжым дарогай.
Яна нас прывядзе
Да маці, да парога.

## ЛЕДЗЯШЫ

Перад марозам ледзяшы
Спусцілі дзюбы ад душы,
Глядзяць стралою дзюбы
З дамоў на снегу гурбы.
Адзін лядзяш перад другім
Хваліцца сталі  – добра ім.
Адзін казаў: я моцны самы,
Каўшом не зб’юць і самазвалы.
Другі казаў: я маю рог,
Як вельмі дужы насарог…

Прыгрэла з ранку сонейка –
І зніклі яны роўненька.

## КАЖУХ

Ў заапарку сёння рух –
Казярог купіў кажух.
Апрануць ніяк не мог –
Нацягнуў сабе на рог.
Слон яму дапамагаў
І кажух увесь парваў.



## СНЯЖЫНКА

Заблудзілася сняжынка
І не ведае, як быць:
То прысела на хусцінку,
То над вуліцай ляціць.
То над лугам, то над рэчкай,
То над школаю лятае,
Цэлы дзень і цэлы вечар
Быццам некага шукае.
То прысела над акном
І на шыбы пазірае,
Бы пагрэцца хоча ў дом,
Ды ніхто ў дом не пускае.

## СНЕГ

Падай, падай,
Лёгкі снег,
Каб з вадою
Быць вясне.
І на лес ляці,
Як пух,
І на рэчку,
І на луг.
Поле белым
Пакрывай –
Будзе летам
Каравай!



## МЯДЗВЕДЗЬ

Заявіў звярам мядзведзь:
Мне б як студзень паглядзець –
Не пайду ў бярлогу спаць,
Лапу ўсю зіму смактаць.
Ды цяпер зіма не тая –
Завіруха не гуляе,
І марозы не трашчаць –
Не хачу ў бярлозе спаць.

А зіма пачула гэта –
Спаў мядзведзь ажно да лета!



## ВОЎК

Воўк спалохаўся зімы –
Стаў самотны і нямы,
Пад ялінай замярзае
І вясны-красы чакае.
А вясна яшчэ далёка...
Для ваўка куплю валёнкі:
Ён не будзе замярзаць...
Як ваўку іх перадаць?

## ЗАЙКА

Не купілі зайку боты –
Бегаў босы па сумётах.
Праз акно убачыў кот –
Зайку клікнуў на кампот.

## ІНДЫК

На кірмашы індык
Купіў сабе парык,
Але пад ім індык
Свой не схаваў кадык.

## КАЖУШОК

Апрануў свой кажушок
Белы зайчык-белячок.
І пабег ён на лужок
Першы абнавіць сняжок...
Цёпла зайку ў кажушку –
Можна бегаць па сняжку.



## ЗАМЯРЗАЕ ВОЎК У ЛЕСЕ

Замярзае воўк у лесе,
Сеў пад елку і дрыжыць.
А слядоў вакол на снезе
Столькі многа – не злічыць.
Не злічыць – не распазнаць,
Налічыў іх дваццаць пяць:
Пяць пад елкай і сасной,
Ля бярозкі маладой,
Пяць пад дубам і асінай...
А мароз з усяе сілы
На дварэ трашчыць-трашчыць.
Як ваўку у лесе жыць?
Так замёрз, што ўсіх слядоў
Палічыць не змог звяроў,
Не знайшоў слядоў і зайца...
І куды ж яму падацца?..

## СКАКАЛКА

Пайшоў бусел на рыбалку,
Замест вуды ўзяў скакалку.
Праскакаў ўсю ноч да ранку –
І згубіў ў вадзе скакалку.



## ДЗІЦЯТКА

Зайка любіць лета,
Сонейка і поле,
І лужок у кветках,
Дзе адно раздолле.
Зайка не баіцца
Паскакаць па сцежках...
З дому яго кліча
Сонейка усмешка.
Вельмі трапяткога
Зайку мама з таткам
Берагуць малога –
Ён для іх – дзіцятка!



## ЛІСКА І ВОЎК

Ціхім снежным сінім ранкам
Ліску воўк катаў на санках:
Вёз направа, вёз налева –
Ліска ў санках – каралева.
Воўк стаміўся, пот цячэ,
А ліса крычыць: “Яшчэ
Пакатай мяне у полі,
Там сняжку цяпер даволі...”
Цягне ліску воўк на санках
Па сцяжынках і палянках,
Між кустоў і дрэў старых –
Аж займае ў воўка дых.
Так знямогся шэры зранку,
Ледзьве цягне ліску ў санках...

Скінуў ў гурбу між бяроз
І далей больш не павёз.

## МАРЫ МЕДЗВЕДЗЯНЯЦІ

І сны, і мары у мяне
Аб адной толькі зіме.
Я на каньках
Хачу вучыцца
І ў зіхатлівым снезе
Мыцца,
На санках з горкі
Паляцець…
Шкада вось толькі –
Я – мядзведзь…
Таму зімою
З мамай сплю,
Але усё ж
Зіму люблю.



## САРОКА

Спаднічку на рынку купіла сарока,
І хваліцца ўсім на бярозе высока.
Зайздросцяць вароны і галкі, сініцы:
Бліжэй падляці і дай нам падзівіцца.

## ЦІХА!

Тата-заяц і зайчыха
Зайчаняці кажуць: “Ціха!
У час гэты па лясах
Ходзіць рыжая ліса”.

## СНЕГІРЫ

Вунь шукаюць снегіры
Хлебных крошак на двары.
Цэлы дзень яны не елі –
Ўсе кармушкі абляцелі,
Ды нічога не знайшлі
І галоднымі былі.
Як убачыў іх Андрэй –
Стала птушкам весялей.
Хлебных крошак у кармушкі
Ён насыпаў – ешце, птушкі!



# Змест


Ручаёк ................................ 3
Санкі ................................. 4
Вясна ................................. 5
Свеціць сонейка ................ 6
Дыван-самалёт ................... 7
Ранак ................................. 8
Салодкі сон ...................... 9
Май .................................. 10
Дзед Мядзведзь ................ 11
Памочніца ......................... 12
Буслінае шчасце ............... 13
Слонік і гармонік ............. 14
Крыніца ............................ 15
Шпак на дрэве .................. 16
Летняе .............................. 17

Жабкі і тапкі .................... 18
Хлопчык Яська ................ 19
Калі ласка ...................... 20
Дапамог .......................... 21
Вартаўнік ........................ 21
Першы зуб ..................... 22
Авёс ............................... 23
Крот-пілот ..................... 24
Сон ................................ 25
Грушы ........................... 26
Пацешка ......................... 26
Сланечнік ...................... 27
"Вожык" .......................... 28
Коцік .............................. 29
Шчупак .......................... 30
Танцы ............................ 31
Стары ясень ................... 32
Пінжак ........................... 33
Сава .............................. 34
Грак ............................... 35
"Плывец" ....................... 36





Лістапад ............................ 37
Пракат .............................. 38
Родны кут .......................... 39
Вавёркі ............................. 40
Зімовая загадка ............... 41
У грыбным лесе ................ 42
Кліча агеньчык ................. 45
Ледзяшы ........................... 46
Кажух ............................... 47
Сняжынка ......................... 48
Снег ................................. 49
Мядзведзь ......................... 50
Воўк ................................. 51
Зайка ................................ 52
Індык ................................ 52
Кажушок ........................... 53
Замярзае воўк у лесе .......... 54
Скакалка ......................... 55
Дзіцятка ......................... 56
Ліска і воўк ....................... 57
Мары медзведзяняці ......... 58
Сарока .............................. 59
Ціха! ................................. 59
Снегіры ............................. 60

Літаратурна-мастацкае выданне

**Чыгрын** Сяргей Мікалаевіч

# СЛОНІК І ГАРМОНІК

Вершы для дзяцей

Для дашкольнага і малодшага школьнага ўзростаў

Рэдактар М.А. Беразоўская
Тэхнічнае і мастацкае рэдагаванне,
вёрстка К.П. Чындаравай

Paper vector designed by Freepik.




Падпісана ў друк 25.05.2021 г. Фармат 84×100 1/32.
Папера афсетная. Друк афсетны. Гарнітура “Verdana”.
Ум. друк. арк. 3,12. Ул.-выд. арк. 1,16, іл. 0,62. Тыраж 99. Заказ №423.

Выдавецкае і паліграфічнае выкананне ТДА “Барк”.
Пасведчанні аб дзяржрэгістрацыі ў якасці выдаўца, вытворцы,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/190 ад 19.02.2014 г.,
№ 2/46 ад 20.02.2014 г., № 3/584 от 17.03.2014 г.

246050, г. Гомель, пр. Леніна, 3
Тэл. (0232) 50-68-73, 50-34-71
odobark@yandex.by

**УДК 82(476.2)-1**
**ББК 84(4Беи)6-5=411.3**
**Ч 97**

**Чыгрын, С.М.**
Ч 97 Слонік і гармонік: вершы для дзяцей / Сяргей Чыгрын. – Гомель: Барк, 2021. – 64 с.

**ISBN 978-985-7213-49-8**